



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

17 кастрычніка 2014 года №42 (1016)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Знайшлі астанкі 104 людзей

**ВАЛОЖЫН.** На былым стадыёне ў Валожыне цяпер ідуць раскопкі. Імі займаецца пошукавы батальён. Парэшткі перадалі на экспертызу міліцыі. Пра гэта паведамляе інтэрнэт-партал tut.by. Сёлета "РГ" друкавала сведчанні мясцовых жыхароў. Яны расказвалі, што на гэтым месцы ў часы Другой сусветнай расстралялі 200 яўрэяў. Пасля таго, як на стадыёне пачалі будаваць жылыя дамы, грамадскасць развярнула хвалю пратэстаў.

**Аддзел інфармацыі.**



# Хто можа трапіць у першы арэндны дом

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 13 да 28 кастрычніка можна падаваць заявы на тое, каб атрымаць кватэру ў арэндным доме, пабудаваным сёлета ў Маладзечне.**

Дом месціцца па вуліцы Лясная, 6. У ім 80 кватэр. 32 з іх ужо размеркавалі сярод прадстаўнікоў сілавых і праваахоўных структур, маладых спецыялістаў.

Яшчэ 48 кватэр пакуль не маюць гаспадароў. Сярод іх 19 аднапакаёвых і 29 двухпакаёвых. Квадратны метр каштуе 24 тысячы рублёў за месяц.

У сярэднім аднапакаёвая кватэра 38 м², двухпакаёвая – 58 м². Адпаведна 912 тысяч рублёў каштуе арэнда аднапакаёвай кватэры, 1 мільён 392 тысячы рублёў – за двухпакаёвай.

### Хто можа атрымаць кватэру ў арэндным доме

Прэтэндаваць на кватэру ў такім доме можа не толькі чалавек, які стаіць ў чарзе на жыллё, але і любы іншы.

Каб мець магчымасць атрымаць кватэру, трэба падаць копію пашпарта і адпаведную заяву. Тым, хто стаіць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў, варта дадаць даведку аб гэтым.

Дакументы можна падаваць у райвыканкам, аддзел жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

– Камісія з работнікаў райвыканкама будзе вызначаць, каго засяліць у гэтыя кватэры, – кажа начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Сяргей Бохан**. – Перавагі на жыллё маюць тыя, хто стаіць на ўліку.

**Засяляць людзей у кватэры плануюць 10 лістапада.**

### Чаго чакаюць ад жылля

Маладзечанец **Міхаіл Івашкевіч** стаіць на чарзе на паляпшэнне ўмоў жылля ад 1999 года. Цяпер ён у чарзе 2282-і. Мужчына лічыць, што арэнднае жыллё для яго – самы аптымальны варыянт. Цяпер разам з сям'ёй жыве ў інтэрнаце.

– Канешне, аплата ў арэндным жыллі вышэйшая, – дзеліцца сваімі думкамі Міхаіл. – Аднак умовы лепшыя: свая кухня з плітой, якая працуе. Ды і спакайней, чым у інтэрнаце.

**Надзея Вальнец** стала на чаргу ў маі 2008 года. У чарзе 8645-я. Яна мяркуе, што пабудаваць кватэру магла б праз гадоў 15-20.

Жанчына з дачкой Палінай наймае жыллё ўжо тры гады. Аднак яна вельмі хвалюецца, што іх могуць выселіць у любы час. Ад арэнднага жылля чакае стабільнага жыцця.

– Арэнднае жыллё таннейшае, чым кватэра па найме, – гаворыць жанчына. – Я яшчэ не бачыла кватэр у гэтым доме. Аднак калі атрымаю яе, то буду рабіць усё магчымае для камфорта і ўтульнасці.

**Юлія Чыгірына** ведае, што атрымаюць арэндную кватэру не ўсе ахвотныя. Аднак шчасця паспытае.

**Галіна СІНІЦА.**

**Табліцу чэргаў на жыллё па нашым рэгіёне глядзіце на 2-й старонцы.**


Фота Настасі РОЎДЫ.

Маладзечанка Надзея Вальнец з дачкой Палінай наймаюць кватэру тры гады. Ад арэнднага жылля яны чакаюць стабільнасці.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



Кадр з кліпа на песню "Асфальт" гурта "J-Морс".

У кліпе "Асфальт" звыклага сюжэту няма. Кліп пра пачуцці: рэўнасць, крыўду, расчараванне і каханне.

МУЗЫКА

# Новы кліп "J-Морса" здымалі ля Валожына

**ВАЛОЖЫН. Відэакліп на новую песню гурта "J-Морс" "Асфальт" здымалі непадалёк ад вёскі Даўбені Валожынскага раёна.**

Пра здымкі "Рэгіянальнай газеце" распавёў промадырэктар гурта **Дзмітры Бескаравайны**, які жыве ў Маладзечне.

Так атрымалася, што Дзмітры сам і падказаў рэжысёру кліпа **Арцёму Лобачу** гэтае месца.

Два гады таму Дзмітры разам з сям'ёй ехаў з Івянца ў Маладзечна. Каб скараціць дарогу, вырашылі ехаць нацянькі праз вёску Даўбені.

Тут і трапілі на дарогу, над якой спляліся галінамі векавыя таполі. Атрымаўся быццам калідор. Скончыўся асфальт, а за ім ляжыць брукаванка.

Сёлета рэжысёр кліпа і промадырэктар гурта ўспомнілі пра гэтае месца на Валожыншчыне і здымачная група кліпа "Асфальт" накіравалася сюды.

Кліп знялі хутка, усяго за адзін дзень. Адзіныя, хто перашкаджаў працы, гэта мясцовыя каровы. Яны час ад часу падыходзілі да машыны, у якой па сюжэце кліпа спявае **Уладзімір Пугач**, і аблізвалі яе.

– Відаць, вельмі хацелі зняцца ў кліпе, – жартуе Дзмітры.

На пытанне, калі "J-Морс" чакаць з канцэртам у нашым рэгіёне, Дзмітры Бескаравайны адказаў, што да нас "морсы" плануюць прыехаць вясной. Тады будзе ладзіцца вялікі канцэртны тур.

**Наталля ТУР.**

ЖЫЛЛЁ

## 34 тысячы чалавек у рэгіёне стаяць у чарзе на жыллё

*Пачатак тэмы пра арэнднае жыллё на 1-й старонцы.*

"РГ" палічыла, колькі чалавек стаіць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў у рэгіёне. Самая вялікая чарга – у Маладзечанскім раёне, 24 467 чалавек.

**Галіна СІНІЦА.**

**Чэргі на паляпшэнне жыллёвых умоў у рэгіёне**

| Раён | Агульная чарга | Горад | Сельская мясцовасць |
|---|---|---|---|
| Астравецкі | 1 020 | 592 | 428 (на 1 студзеня) |
| Ашмянскі | 1 483 | 1 218 | 703 (на 1 студзеня) |
| Валожынскі | 1 500 | 790 | 710 |
| Вілейскі | 1 871 | 1 567 | 304 (на 1 студзеня) |
| Маладзечанскі | 24 467 | 11 442 | 13 025 |
| Мядзельскі | 1 415 | 498 | 918 |
| Смаргонскі | 3 136 | 3 136 | – |
| Усяго | 34 892 | 19 243 | 16 088 |

КУЛЬТУРА

### У Вілейку з'едуцца гісторыкі

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 18 кастрычніка, у Вілейцы пройдзе міжнародная навуковая канферэнцыя "Першая сусветная вайна ў гістарычных лёсах Еўропы". Прымеркавана яна да 100-годдзя пачатку вайны.

На ўдзел у канферэнцыі паступіла каля 150 заявак на даклады. У тым ліку – з Беларусі, Расіі, Украіны, Сербіі, Вялікабрытаніі, Казахстана, Польшчы, распавёў дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

Адразу навукоўцы наведаюць на Вілейшчыне мясціны, звязаныя з гісторыяй Першай сусветнай. Потым ў вялікай зале Вілейскага райвыканкама адбудзецца пленарнае пасяджэнне. Намечанае яно на 11:30.

Далей у розных месцах будуць працаваць пяць секцый.

### Прывезлі з фестывалю электрафартэпіяна

**ВІЛЕЙКА.** У Мар'інай Горцы 11 кастрычніка прайшоў адзінаццаты абласны фестываль народнай творчасці "Напеў зямлі маёй".

У ім удзельнічалі 32 народныя і ўзорныя аматарскія калектывы з Міншчыны.

– Сёлета на фестывалі калектывы паказалі высокі выканаўчы ўзровень. Прыемна, што наш эстрадна-джазавы ансамбль заняў на ім першае месца, – распавяла намеснік дырэктара Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў па вучэбна-выхаваўчай рабоце **Таццяна Грыноўская**.

Уручылі віляйчанам электрафартэпіяна. Кіруе ансамблем **Фёдар Гур**.

### Пра беларускую кухню раскажуць у Мядзеле

**МЯДЗЕЛ.** Новая выстава распачнецца ў музеі народнай славы 22 кастрычніка. Называецца яна "Гаспадыня ў хаце – лепшае багацце".

Выстава прысвечаная беларускай кухні і кухонnaму начынню канца 19 – пачатку 20 стагоддзя.

Падзеленая яна на раздзелы: "Вясковы стол", "Гарадскі стол", "Печ", "Бабін кут", "Клець" і "Кірмаш", расказала дырэктар музея **Святлана Чарняўская**.

### Лепшыя знаўцы вучацца ў вілейскай гімназіі №2

**ВІЛЕЙКА.** У раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 11 кастрычніка прайшоў раённы турнір знаўцаў "Інтэлектуальная восень-2014". Удзельнічалі ў ім вучні 10-11 класаў.

Пра гэта расказаў культарганізатар цэнтра, кіраўнік клуба дзіцячых і маладзёжных інтэлектуальных камандаў "Бронзавая Сава" **Сяргей Рыжэвіч**.

Перамагла каманда "Фартуна" з вілейскай гімназіі №2. Другое месца ў каманды "Метыда" з Любанскай сярэдняй школы, трэцяе – у "Неасакрацікаў" з сярэдняй школы №3 Вілейкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ЛІЧБА НУМАРА

**100**

• Столькі тысяч рублёў у сярэднім каштуе вакцына супраць грыпу

• У столькі долараў (больш за мільён рублёў) абыдзецца дзяржаве лячэнне грыпу ў паліклініцы

По інфармацыі Маладзечанскай ЦРБ

АНОНС

### Будзе сустрэча з Радзімам Гарэцкім

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сустрэча пройдзе ў чацвер, 23 кастрычніка, у бібліятэцы "Верасок". Пачатак а 17 гадзіне ў канферэнц-зале. Можна будзе атрымаць аўтограф 86-гадовага акадэміка, пляменніка Максіма Гарэцкага і сына Гаўрылы Гарэцкага. Пра гэта паведаміла **Таццяна Закрэўская**, загадчыца аддзела абслугоўвання ЦРБ.

**Аддзел інфармацыі.**




Новы рамонт для жыхаркі Смаргоні стаў галаўным болем. На калажы мы паказалі асноўныя праблемы, з якімі сутыкнулася гаспадыня дома.

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Ідзём у нагу з часам: рамонт у стылі "хай так"

**СМАРГОНЬ. Такі каментар пакінуў карыстальнік смаргонскага форуму пад фотасправаздачай свежага рамонту мясцовай жыхаркі.**

Яна заплаціла грошы майстрам, каб яны абнавілі жытло, але пасля іх стала ці не горш, чым было дагэтуль.

Паклеілі шпалеры – парвалі і вельмі крыва абрэзалі канцы па нізе. У дадатак яшчэ і на плінтус запусцілі. Фарбавалі плінтус – заляпілі і столь. Узяліся за падваконне – пафарбавалі шпалеры над ім. Частка фарбы аблупілася адразу.

Адным словам, гора, а не рамонт. І так па ўсім доме. Майстры ж лічаць, што сваю работу яны выканалі добра.

Што рабіць у такой сітуацыі, дае парады намесніца начальніка Смаргонскага райвыканкама па эканоміцы **Валянціна Галяк**.

### Пачынаць разбіральніцтва трэба з дагавора

У якім былі агавораныя тэрміны рамонту і работы, якія мусілі быць выкананыя. Калі ўмовы дагавора парушаныя, заказчык павінен накіраваць выканаўцу прэтэнзію, у якой будзе пазначана ўсё, што яго незадавальняе. І запатрабаваць выправіць недахопы.

**Цягам 14 дзён рабочыя павінны ўсё выправіць.**

Калі гэта немагчыма, заказчык можа скасаваць дагавор і запатрабаваць пакрыццё страт.

Калі дагавора няма, будзе складаней. Калі паслугі аказваў прадпрымальнік альбо арганізацыя, то вусная дамова таксама мае сілу. Калі ж гэта была фізічная асоба, якая займаецца будаўнічай дзейнасцю незаконна, то ў першую чаргу варта ісці ў падатковую інспекцыю.

Калі будзе даказаны факт выплаты за праведзеныя работы, можна будзе вярнуць грошы.

**Настасся РОЎДА.**

## Прыходзяць паправіць здароўе – падварочваюць ногі

**МАЛАДЗЕЧНА. Па вуліцы Драздовіча, 10, непадалёк ад музычнага каледжа, ужо два месяцы разбіты падыход да ўвахода ў будынак. Тут месціцца дэманстрацыйная зала масажораў.**

Паспрабаваць на сабе апаратуру, якая прызначана здымаць стрэсы, а таксама лячыць захворванні пазваночніка, прыходзяць пераважна пажылыя ці інваліды.

На пляцоўцы перад увaходам у залу чакаюць сеанса жанчыны.

– Гэта для нас адзінае месца, куды мы можам бясплатна прыйсці, атрымаць падтрымку ды паправіць здароўе, – кажа **Ніна Жамойдзіна**, інвалід 2-й групы. – Горад пра нас, інвалідаў, не думае. Адмысловых мерапрыемстваў для нас няма. Мы сюды з задавальненнем прыходзім пагутарыць.

Жанчыны кажуць, што замест падыхода да будынка ў плане забудовы гэтай часткі горада павінна быць зялёная зона.

– Хоць бы пліты якія паклалі ці засыпалі чым, – кажа яшчэ адна наведніца масажорнай залы **Людміла**. – Сюды ж шмат хто з кійком ходзіць. Літаральна колькі дзён таму прыходзіў сталы мужчына. Ледзь падняўся, дапамагала яму. Дык яшчэ і нагу падвярнуў. Пасля ледзь ішоў, калі дадому вяртаўся.

### Гаспадар мусіць звярнуцца ў "Камунальнік"

Як патлумачыла начальніца вытворча-тэхнічнага аддзела "Камунальніка" **Таццяна Паляковіч**, праект забудовы распрацоўваўся ў 2011 годзе. На той час у будынку мала што было, таму і не прадугледжваліся падыходы да ўваходаў. Там была прадугледжаная зялёная зона.

Ужо пасля плошчу на другім паверсе арандавала фірма, якая арганізавала там дэманстрацыйную залу масажораў, з'явілася цырульня. І сам гаспадар рабіў падыходы да ўваходаў.

– Сёння там тры ўваходы, заўтра ўласнік захоча зрабіць яшчэ невядома колькі. Што тады? – разважае Таццяна Паляковіч.

Каб вырашыць пытанне з падыходам, спецыяліст раіць уласніку будынка звярнуцца ў "Камунальнік". Тады можна разам шукаць выйсце.

– Але ў такім стане падыход пакідаць, вядома, не будзем, – упэўнівае Таццяна Паляковіч.

Капітальны рамонт вуліцы Драздовіча тым часам будзе ісці да канца лістапада.

**Настасся РОЎДА.**
**Глядзіце фота на сайце**






| Курсы валют НБ РБ | 09.10 руб. | 16.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 630,00 | **10 660,00** |
| Еўра | 13 430,00 | **13 470,00** |
| Злоты | 3 213,13 | **3 206,21** |
| Літ | 3 894,49 | **3 908,13** |
| Расійскі рубель | 266,00 | **260,50** |
| Грыўня | 820,85 | **826,36** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13420/13600 | **13460/13700** |
| Долар ЗША | 10610/10680 | **10660/10730** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 8.10 | 15.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 51700 | **51700** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 95800 | **98000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13000 | **13000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6850 | **6850** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Капуста, 1 кг | 3500 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 27900 | **25000** |
| Апельсіны, 1 кг | 16900 | **26500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27500 | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 16500 | **18500** |
| Агуркі, 1 кг | 19500 | **25900** |
| Перац, 1 кг | 14500 | **15900** |
| Кавун, 1 кг | 7000 | **7000** |
| Дыня, 1 кг | 12000 | **15000** |
| Вінаград, 1 кг | 17900 | **15500** |
| Бананы, 1 кг | 14500 | **14500** |
| Яблыкі, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 18900 | **18900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4000 | **4000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

## Удакладненне

У №41 ад 10 кастрычніка ў артыкуле "Як абразаюць дрэвы ў горадзе" напісана, што на спілоўванне і абрэзку дрэў выходзіць майстар са ЖРЭУ. Насамрэч, ЖРЭУ толькі прымае заяўкі на спілоўванне дрэў, якія потым перадае ў зелянгас.

У матэрыяле "Ці можна абмяняць кватэру, калі яе сапсавалі камунальнікі", пад радком "запланаваны рамонт даху на 2014 год" маецца на ўвазе, што цяпер вядзецца першасны этап падрыхтоўкі дакументаў да рамонту даху. Таксама **Уладзімір Сідараў** прасіў удакладніць, што асобная кватэра ў шматкватэрным доме не можа падлягаць адсяленню. А дом можа быць прызнаны непрыдатным для жыцця пры фізічным зносе будынка больш за 65%. Пры гэтым павінны быць выкананыя патрабаванні немэтазгоднасці капітальнага рамонту. Гэту выснову робіць камісія па выніках агляду.

**Аддзел інфармацыі.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Заплаціла махлярам за прагляд порна

**На мінулым тыдні інтэрнэт-махляры разаслалі паведамленні, пры дапамозе якіх блакавалі камп'ютары беларусаў. У гэты пералік трапілі жыхары нашага рэгіёна.**

Махляры патрабавалі ад імя Міністэрства ўнутраных спраў, каб карыстальнік праз электронны кашалёк аплаціў штраф у 1 мільён рублёў за прагляд порнасайтаў.

– У Маладзечне жанчына 35-40 гадоў аплаціла такі штаф, – кажа начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі **Дзмітры Сухоцкі**. – Праз тры дні ёй зноў прыйшло падобнае паведамленне, толькі тады яна вырашыла звярнуцца ў міліцыю.

Супрацоўнікі сферы высокіх тэхналогій УУС Мінскага аблвыканкама забралі ў жанчыны камп'ютар для праверкі.

Выклікала на дапамогу маладзечанскіх міліцыянераў і яшчэ адна жыхарка з Маладзечна. Жанчына сама закрыла паведамленне, перазагрузіўшы камп'ютар.



Калі ваш камп'ютар працуе няправільна ці паказвае падазроныя паведамленні, найхутчэй, што ў ім завёўся вірус.

### У Смаргоні і Астраўцы былі падобныя выпадкі

Як распавёў начальнік аддзела па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій УУС Гродзенскага аблвыканкама **Сяргей Чарняк**, са Смаргоні было некалькі званкоў і пісьмовая заява на гэтую тэму. Тэлефанавалі і з Астраўца.

– Калі чалавек аплаціў такі штраф, то грошы цяпер вярнуць нельга. Калі махляры беларускія, то шанец ёсць. Геаграфія распаўсюджвання падобных вірусаў на 90% ідзе з-за мяжы – Расіі, Казахстана, Украіны.

Два гады таму злавілі махляра з Мінска таксама за распаўсюджванне па вірусу, які цалкам блакаваў камп'ютар.

### Як змагацца з махлярамі

– Ні ў якім разе не трэба плаціць, – працягвае Сяргей Чарняк, – неабходна запісаць ці сфатаграфаваць рахунак (электронны кашалёк), на які просяць пералічыць грошы, запісаць адрас старонкі і паведаміць у міліцыю.

Ён даў парады, якія можна выкарыстаць, калі на камп'ютары з'яўляецца падобны вірус.

Проста закрыйце ўкладку. Калі гэта зрабіць немагчыма, то завяршыце працэс браўзера, выйшаўшы на рабочы стол (клавішы Win + D).

Альбо праз дыспетчар задач, выклікаецца спалучэннем клавішаў Ctrl + Alt + Delete. Рэкамендуецца правесці поўную праверку камп'ютара з выкарыстаннем антывірусната праграмнага забеспячэння.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**Даведка РГ.** Браўзер – прыкладное праграмнае забеспячэнне для прагляду вэб-старонак.

## Сацыяльныя сеткі назбіралі порнаархіў

**МАЛАДЗЕЧНА. Адзін з асноўных распаўсюджвальнікаў дзіцячай парнаграфіі ў інтэрнэце – сацыяльная сетка "УКантакце".**

Гэта найбуйнейшы відэахостынг, які карыстаюцца беларусы. Яго слаба кантралююць уласнікі.

У 2008 годзе ў Крымінальны кодэкс унеслі змяненні, якія тычацца адказнасці за распаўсюджванне порнаматэрыялаў праз інтэрнэт. А таксама адказнасць за выраб і распаўсюджванне дзіцячай парнаграфіі, у тым ліку праз інтэрнэт.

За гэты час супрацоўнікі ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі (НіСГЛ) Мінскай вобласці выявілі 32 злачынствы, звязаныя з распаўсюджваннем парнаграфічных матэрыялаў. Сярод іх пяць выявілі супрацоўнікі аддзела НіСГЛ Маладзечанскага РАУС.

**Уладзімір ВАСІЛЬКОЎ, намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні.**

| | |
|---|---|
| **Артыкул 343. Выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў** | |
| 1. Выраб ці захоўванне з мэтай распаўсюджвання ці рэкламавання, або распаўсюджванне ці рэкламаванне парнаграфічных матэрыялаў, або публічная дэманстрацыя кіна- ці відэафільмаў на гэтую тэму | Грамадскія работы або штраф, або папраўчыя работы да двух гадоў, або арышт да шасці месяцаў |
| 2. Тыя ж дзеянні, здзейсненыя групай асоб па папярэдняй змове або арганізаванай групай. Тыя ж дзеянні, здзейсненыя паўналетнім у дачыненні да непаўналетняга | Пазбаўленне волі ад двух да чатырох гадоў |
| **Артыкул 3431** | |
| **Выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў з выявай непаўналетняга** | |
| 1. Выраб ці захоўванне з мэтай распаўсюджвання ці рэкламавання, або распаўсюджванне ці рэкламаванне парнаграфічных матэрыялаў з выявай заведама непаўналетняга. Альбо публічная дэманстрацыя кіна- ці відэафільмаў парнаграфічнага характару з такой выявай | Выпраўленчыя работы да двух гадоў або арышт да шасці месяцаў, або абмежаванне волі да чатырох гадоў, або пазбаўленне волі на той жа тэрмін |
| 2. Тыя ж дзеянні, здзейсненыя паўторна, або групай асоб па папярэдняй змове. Таксама выкарыстанне заведама непаўналетняга для вырабу парнаграфічных матэрыялаў з яго выявай | Пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да васьмі гадоў з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасці |
| 3. Дзеянні, прадугледжаныя часткамі 1 або 2 гэтага артыкула, учыненыя арганізаванай групай. Таксама выкарыстанне заведама малалетняга для вырабу парнаграфічных матэрыялаў з яго выявай | Пазбаўленне волі на тэрмін ад пяці да трынаццаці гадоў з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасці |

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

### У Маладзечне сын пырнуў нажом бацьку-інваліда

**МАЛАДЗЕЧНА.** 28-гадовы маладзечанец пасварыўся з бацькам дома, дзе яны разам жылі.

Было каля 19 гадзін, калі сын схапіў кухонны нож і некалькі разоў пырнуў ім бацьку ў грудзі.

Ахвяры 60 гадоў. Ён інвалід другой групы.

Пра гэта здарэнне, якое адбылося 4 кастрычніка, міліцыя даведалася праз паўгадзіны.

Падазраванага маладзечанца затрымалі ў той жа дзень каля 21 гадзіны.

### Ахоўнік каледжа скраў грошы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ён прысабечыў з сейфа ўстановы амаль дзевяць мільёнаў рублёў.

Пра здарэнне стала вядома ноччу 6 кастрычніка. Наменснік начальніка Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа распавёў міліцыі, што з касы зніклі грошы.

Злодзей прабраўся ў памяшканне касы, пашкодзіў уразны замок сейфа і забраў суму.

Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў знайшлі падазраванага – 45-гадовага ахоўніка ўстановы, жыхара Маладзечна.

### Трэці раз за год цяжка збіў сужыцельку

**МАЛАДЗЕЧНА.** Раней судзімы 45-гадовы жыхар Маладзечна вечарам 25 ліпеня пасварыўся з сужыцелькай.

Мужчына пусціў у ход кулакі. Грамадзянская жонка атрымала пабоі.

Ён таксама збіваў яе 2 і 14 жніўня.

Жанчына на шэсць гадоў маладзейшая за яго.

Абое не працуюць.

### Спрабаваў скрасці сумачку ў кавярні

**МАЛАДЗЕЧНА.** Аднак гэта заўважылі работнікі ўстановы і націснулі кнопку сігналізацыі.

23-гадовы малады чалавек каля апоўначы 4 кастрычніка свабодна прайшоў у падсобнае памяшканне адной з кавярняў Маладзечна. Адтуль ён сцягнуў жаночую сумачку 18-гадовай маладзечанкі.

Аднак давесці злачынства да канца ў яго не атрымалася. Праз дзесяць хвілін яго затрымала міліцыя, якраз падчас таго, як маладзён спрабаваў збегчы.

Узбуджаная крымінальная справа.

**Уладзімір ВАСІЛЬКОЎ, намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні.**

● СЛУЖБА 101

## У Маладзечанскім раёне жанчына курыла ў ложку. Яна загінула

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося ў вёсцы Раёўка Маладзечанскага раёна 8 кастрычніка.**

Выратавальнікі, што прыбылі на месца здарэння, убачылі, што жылы дом гарыць адкрытым полымем.

Газадымаахоўная служба, што ў гэтым доме праводзіла разведку, знайшла на ложку труп 48-гадовай гаспадыні.

Асноўная версія трагедыі – неасцярожнасць пры курэнні.

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" паведаміла інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС **Ксенія Таратута**.

**Наталля ТУР.**

## Згарэў дом, дзе не жылі

**ВІЛЕЙКА. Ноччу 11 кастрычніка выратавальнікам паведамілі, што гарыць дом у вёсцы Бацюжына Хаценчыцкага сельсавета.**

Калі прыехалі выратавальнікі, дом гарэў адкрытым полымем, агонь ахапіў дах. У выніку ад дома засталіся адны сцены, распавёў інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

Вёска малая, на той час у ёй былі два дачнікі. З-за пажару ў іх знікла святло ў доме.

Па словах дачнікаў, у згарэлай хаце пастаянна ніхто не жыў. Але ў той дзень у ёй быў нейкі хлопец, які ў гадзін восем вечара з'ехаў.

Прычыну пажару ўстанаўліваюць.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЗДАРЭННІ

# На заводзе знайшлі саву з Чырвонай кнігі

## Знойдзеная драпежніца частуецца сырой курыцай і зусім не баіцца людзей

**МАЛАДЗЕЧНА. 13 кастрычніка параненую саву на заводзе "Амкадор-Унікаб" знайшоў супрацоўнік завода Мікалай Кеўліч.**

У панядзелак ён выйшаў на двор завода. Заўважыў, што ў траве нешта скача. Спачатку не звярнуў на гэта ўвагу, вырашыў, што голуб. Потым усё ж такі падышоў паглядзець бліжэй.

У траве скакала савянё. Яно адчайна махала правым крылом, левае ж распласталася па зямлі і ўвогуле не варушылася.

**Забіраць ці не – пытання ў Мікалая не ўзнікла. Канешне, забіраць і ратаваць, інакш саву маглі задушыць каты.**

Гаспадар новага гадаванца адразу патэлефанаваў у грамадскую арганізацыю "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Яму адказалі, што саву забраць не могуць і далі парады па доглядзе.

У першы ж дзень сава паснедала сырой курыцай. Яна не баіцца людзей, толькі ўважліва назірае за гаспадарамі вялікімі круглымі вачыма.

Гэтай птушкай аказаўся сыч махнаногі. Ён занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

### Параненыя совы ў прыроду не вяртаюцца

На пытанне, што рабіць са знаходкай, адказала спецыяліст з "Аховы птушак Бацькаўшчыны" **Вольга Лукшыц.**

У птушак вельмі складаная будова крылаў, таму малаверагодна, што яна зажыве, як раней.

Сава на тэрыторыі завода магла апынуцца з розных прычын. Цяпер восень, а гэта значыць, што птушкі шукаюць больш цёплае жыллё. Сава магла некуды ляцець і зачапіцца за лінію электраперадач, магла стукнуцца ў шыбу ці ўцякаць ад драпежніка.

Зараз спецыялісты з "Аховы птушак Бацькаўшчыны" шукаюць саве прытулак у якім-небудзь заапарку або сумленнага гаспадара, які б мог даць прытулак лясному драпежніку.

А людзей, якія раптам знойдуць параненую птушку, просяць таксама па магчымасці прымаць удзел у іх лёсе. На жаль, не ўсіх птушак можна хутка ўладкаваць у заапарк.

А без дапамогі чалавека параненай і аслабелай птушцы выжыць вельмі цяжка.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Дзянісам МЕЛЬНІЧЭНКАМ.

**Убачыўшы саву ў траве, супрацоўнік завода спачатку вырашыў, што там скача голуб.**

● АКЦЫІ

# Алею загінулым у вайне пасадзілі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. 10 кастрычніка а палове другой дня вучні і настаўнікі СШ №5, былыя вязні канцлагераў і сталыя людзі пасадзілі алею вязням вайны.**

Яна месціцца каля Камсамольскага парку. У алеі 20 дубоў. Іх школе даў зелянгас.

Пакуль саджалі дрэвы, былыя вязні канцлагераў уздыхалі: "Напэўна, не дажывём да таго часу, калі дрэвы падрастуць". На што **Яўген Макарэвіч**, дырэктар школы №5, з гумарам адзначыў:

– Вам цяпер трэба больш сіл, каб жыць. За дрэвамі даглядаць трэба. Таму, пакуль падрастуць, а гэта гадоў 80, трэба трымацца.

Як адзначае арганізатар пасадкі алеі, кіраўнік клуба "Пошук" **Лідзія Князева**, у акцыі дапамаглі **Кірыл Міхаленка**, намеснік начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва, **Галіна Саулідзі**, дырэктар зелянгаса.

### А ў школе №12 пасадзілі алею з туй

Экалагічную акцыю "Пасадзі дрэва" зладзілі бацькі, дзеці і настаўнікі сярэдняй школы №12 у суботу, 11 кастрычніка.

Чаму для пасадкі выбралі туі, патлумачыла намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Наталля Шыцік.**

– Туя аб'ядноўвае мноства карысных і прыемных "бонусаў". Яна вельмі непераборлівая і расце практычна на любым грунце. Туя аздараўляе паветра вакол. На акцыю ахвотна адгукнуліся і бацькі вучняў, якія разам з дзецьмі высадзілі 75 дрэў.

**Галіна СІНІЦА, Наталля ТУР.**



Фота Галіны СІНІЦЫ

**Удзельнікі клуба "Пошук" высаджваюць алею ў гонар загінулых у вайне.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Збіральнік спадчыны Франц Млечка: Хачу захаваць памяць...

**ВІЛЕЙКА. На ўскрайку былой Іжанскай пушчы, у вёсцы Старадубава, збіральнік сямейнай спадчыны віляйчанін Франц Млечка стварае музей пад адкрытым небам.**

Брычка паэта **Адама Гурыновіча** з пазаміналага стагоддзя, салдацкая лазня часоў Першай сусветнай вайны, вайсковы фрэнч свайго цесця **Іосіфа Смаленскага** з медалямі за подзвігі ў Другой сусветнай – малы пералік рэліквій...

Франц Мікалаевіч стаў сваім у Старадубаве ў 1968-м, калі ўзяў у жонкі **Зосю Смаленскую**, дачку **Казіміра**, ветэрана Другой сусветнай вайны. Цесць разам са сваімі братамі **Баляславам** і **Міхаілам** ваявалі ў складзе Войска Польскага.

Казімір Іванавіч быў сапраўдным захавальнікам мінуўшчыны. Яго бацька, Янка Смаленскі, служыў некалі лесніком у мясцовага пана. І пан той за добрую службу і варштат свой сталярскі пакінуў Янку, і брычку… А таксама ўспаміны пра сябе, як спагадлівага і чулага чалавека.

Імя пана было Адам. Адам Гурыновіч. Беларускі паэт і фалькларыст, які нарадзіўся і жыў па суседстве ў фальварку Крыстынопаль.

Усе Смаленскія былі працавітымі і, што важна, тэхнічна адукаванымі людзьмі. Здатнымі да самых розных рамёстваў.

Такую выснову можна зрабіць, пабачыўшы калекцыю пана Франака, аснову якой складаюць прадметы працы, якімі карысталіся Смаленскія.

Цесць Франца Млечкі і цесляроў, нямала сярод прылад цяслярскага рыштунку. І бандароў, ведаў ганчарную справу.

Франц Мікалаевіч адсоўвае шуфляду стала, які цяпер стаіць у павеці ў Старадубаве:

– Гэта мой цесць прывёз з вайны, – у шуфлядзе беражліва складзены паходны шавецкі інструмент. Казімір Смаленскі быў вядомым у акрузе шаўцом.

Старадубава – невялічкая вёсачка, што прытулілася да лясной гары, на якой у часе Першай сусветнай знаходзіўся адзін з камандных пунктаў расійскай арміі. Фронт праходзіў ў непасрэднай блізкасці. Пад гарой салдаты склалі сабе лазню. Дзесяцігоддзі пасля Смаленскія карысталіся лазняй, пакуль пры Хрушчове не прыйшла зверху каманда пасселяць у вёскі хутары.

Пра гэта мне расказаў пан Франак:

– Ну і Іжанскаму сельсавету нейкі там план даявілі. Дык мясцовае начальства, каб і кіраўніцтву дагадзіць, і людзям не нашкодзіць, загадалі перанесці лазню бліжэй да вясковых хат. А па дакументах пазначылі перанос лазні як перанос хутара, – усміхаецца Франц Мікалаевіч.

Франц Млечка, ужо на новым месцы, адрэстаўраваў лазню. Зрабіў з курнай добрую – з печкай і комінам. Аб яе мінулым гаворадь сляды закураных сцен, якія Млечка адшліфаваў.

Яшчэ адно месца пад гарой, куды Франц Мікалаевіч нярэдка падымаецца, – месца былой капліцы, якую ў пачатку шасцідзесятых, па аповедах яшчэ жывых сведак, за адну ноч разабралі і завезлі ў Іжу. Там з яе склалі ці то пральню, ці то кухню мясцовай участковай бальніцы.

– Ды каб мы ведалі такое, – гаворыць 90-гадовы старадубавец **Іосіф Смаленскі**, голас якога запісаў мой суразмоўца на магнітафон, – дык мы б усёй вёскай выйшлі і не далі б гэтага зрабіць. Вось Казя ў час вайны схаваў арган з капліцы, дык і ацалеў той. Цяпер у касцёле ў Вішневе іграе.

Казя – гэта Казімір Смаленскі, цесць Млечкі.

А мой герой пастанавіў на мэце ўсталяваць на месцы былой капліцы мемарыяльны крыж. І зрабіў гэта з жончынымі аднавяскоўцамі. Ачысцілі месца, дзе выразна бачны падмурак былой святыні, зрабілі з дапамогай сельсавета добры падыход сюды. І ў апошнія часы тут аднавіўся некалі традыцыйны старадубаўскі фэст на 14 чэрвеня.

Побач з лазняй, якая стаіць на сотках Смаленскіх, Млечка расчысціў хмызняк, зрабіў сажалку. Марыць тут паставіць альтанку, каб было дзе месца сустрэчы з сябрамі. Расказваючы пра гэта, ён з захапленнем паказвае на ўнікальную з'яву:

– Вы такога не бачылі? З ліпы прабіваецца рабінка.

Ведаю Млечку больш за трыццаць гадоў. У тыя часы ён працаваў намеснікам дырэктара па рэжыме і кадрах аднаго з самых буйных прадпрыемстваў рэгіёна – завода "Зеніт". Пасада, здавалася б, для сур'ёзных несентыментальных людзей. Знаёмства ж з ім, як з калекцыянерам, было нечаканым для мяне і прыемным.

На пытанне, навошта для яго ўсё гэта трэба, Млечка адказвае проста:

– Хачу зберагчы памяць.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**
**Больш здымкаў глядзіце на сайце**

Rh.by



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Франц Млечка зберагае шмат рэліквій. Тут ён побач з вайсковым фрэнчам свайго цесця Казіміра Смаленскага, ветэрана Другой сусветнай вайны. Побач з савецкімі медалямі – узнагароды Польшчы. Казімір Смаленскі служыў у Войску Польскім.**




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**На месцы разбуранай ў 1960-я гады капліцы.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Гэта лазня, пабудаваная расійскімі салдатамі побач са Старадубавам амаль сто гадоў таму, захавалася дзякуючы спачатку Яну Смаленскаму, пазней яго сыну Казіміру. Франц Млечка адрэстаўраваў яе і па сённяшні дзень яна выкарыстоўваецца па сваім прамым прызначэнні.**



Фота з/сямейнага архіва Франца МЛЕЧКІ.

**Тры браты Смаленскія: Міхаіл, Казімір і Баляслаў. Здымак часоў Другой сусветнай вайны, які браты паслалі дадому ў Старадубава.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**У часе размовы з карэспандэнтам Франц Млечка дастае падрабязную карту мясцовасці і пераказвае ўспаміны Казіміра Смаленскага аб газавых атаках немцаў у Першую сусветную вайну. Старадубава было вёскай на лініі фронту.**

КРАЯЗНАЎСТВА

# Вялікая Мыса, што бярэ пачатак ад Вітаўта

*Заканчэнне. Пачатак у №№40, 41*

**СМАРГОНЬ. Адным са старажытных паселішчаў смаргонскага краю з'яўляецца мясціна з красамоўнай назвай Вялікая Мыса.**

І хоць першую частку назвы сталі ўжываць толькі з пазамінулага стагоддзя, аднак па сваёй багатай і ўнікальнай гісторыі Мысу па праве можна назваць Вялікай.

Пра лёс мясціны, якая існуе больш за пяць стагоддзяў, распавядае пастаянны аўтар спецпраекта "РГ" "Куфэрак".

## У Мысе ёсць цудатворны абраз

Вось яшчэ некалькі фактаў з мясцовага жыцця той пары. У маі 1886 года гаспадар атрымаў ад страхавога таварыства "Якар" выплату ў памеры 34 рублі 38 капеек за шкоду, якую нанёс пажар у яго ўладанні Малая Мыса. Збіраючы звесткі для "Археалагічнай карты Віленскай губерні", якая была надрукаваная ў 1893 годзе, не мог абмінуць Мысу і вядомы гісторык Пакроўскі.

Паводле інфармацыі Спаса-Праабражэнскай царквы ў Суцькаве **Іаана Канцэвіча**, які таксама абслугоўваў прыпісную мыскую царкву, на старонкі археалагічнага выдання трапілі наступныя звесткі: "Мыса, 43º54´ – 54º25´ (на самой справе каардынаты Мысы наступныя: 54º40´ – 26º33´, – заўвага аўтара), Крэўскай воласці Ашмянскага павета. У палове вярсты ад Мысы, па дарозе ў Караваі, ёсць вялікі, шарападобнай формы насып, на верхняй роўнай пляцоўцы якога ўладкаваныя сучаснымі ўладальнікамі фамільныя могілкі.

У Мыскай прыпіснай царкве ёсць цудатворны абраз Божай Маці, на ўшанаванне якога 15 жніўня сыходзяцца ў вялікай колькасці нават вернікі з іншых прыходаў".

## Старасвецкі тыповы двор

У трэцім томе "Ашмянскага павета", які пабачыў свет у 1898 годзе, вядомы краязнаўца **Чэслаў Янкоўскі** адзначаў: "Ніжэй Смаргоні знаходзіцца Мыса, прыгожы маёнтак са старасвецкім тыповым дваром, уласнасць на працягу 100 гадоў Букатых. Гаспадарыць сёння тут удава Аляксандра Букатага".

Складзены **Гашкевічам** у 1905 годзе па афіцыйных дадзеных "Поўны спіс населеных месцаў Віленскай губерні" паведамляў, што Букатым у Смаргонскай воласці належалі фальварак Мыса і млын Малая Мыса, а ў Крэўскай воласці ляжалі маёнткі Шыманова і Вялікая Мыса. У апошнім паселішчы жыло ў той час 36 мужчын і 46 жанчын, валаснае праўленне было ў адлегласці 10 вёрст, а чыгуначная станцыя Смаргонь знаходзілася за 11 вёрст ад маёнтка.

## Фота Мысы набылі на замежным аўкцыёне

Наступная старонка гісторыі Мысы звязаная з трагічнымі падзеямі Першай сусветнай вайны, калі старажытнае паселішча спазнала горкі лёс акупацыі. Ад верасня 1915 года да лютага 1918 у маёнтку гаспадараць кайзераўцы.

Па фотаздымках Мысы, якія выканалі нямецкія фатографы 261-263 рэзервовых пяхотных палкоў 79 рэзервовай дывізіі, можна сёння не толькі ўзнавіць выгляд сядзібы Букатых, але і прасачыць ход яе разбурэння.

**Такую магчымасць даў вядомы сталічны даследчык і фотамастак Уладзімір Багданаў, які набыў рарытэтныя фотаматэрыялы таго часу на замежных аўкцыёнах і шчыра падзяліўся імі.**

Зробленыя з удалых ракурсаў, гэтыя фатаграфічныя дакументы даюць нам магчымасць пабачыць ва ўсёй прыгажосці палац Букатых. Драўляны сядзібны дом быў пабудаваны ў класічным стылі. Да высунутай наперад сярэдняй часткі на галоўным двухпавярховым цэнтральным фасадзе прылягаў порцік з шасцю калонамі. Будынак накрываў двухсхільны дах над цэнтральнай часткай і трохсхільны гонтавы дах над бакавымі крыламі.

Заслугоўвае ўвагі размешчаная побач пабеленая мураваная пабудова са скразной галерэяй на цэнтральным фасадзе. Пакрытая яна была чатырохсхільным дахам. Перад ганкам – авальная пад'язная дарожка са жвіру, па баках якой было выкладзена камянямі.

Маёнтак з заходняга і паўночнага бакоў акружаў парк. Дом атачалі старыя пасадкі, якія складаліся пераважна з таполяў і елак, былі і куставыя пасадкі. Да жылых будынкаў з Караваяў вяла шырокая ліпавая алея, другая прысада была закладзеная ў бок Глінна. Гаспадарчы двор змяшчаўся з левага ад палаца, паўднёвага накірунку, дзе праглядаюцца іншыя пабудовы з цікавым архітэктурным рашэннем.

## Мішэнь для абстрэлаў

На іншых фотаздымках паказанае наступовае занядбанне палаца, якое звязанае, магчыма, з тым, што для штабнога камандавання пабудавалі моцныя бетонныя схроны, і вайскоўцы перабазіраваліся ў іх. Палац становіцца прыцягальнай мішэнню пры артабстрэлах, і гэта таксама адбілася на яго стане.



Алея каля маёнтка ў Вялікай Мысе. Фота зробленае ў 1916 годзе, падчас Першай сусветнай вайны.

Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

**Спачатку відаць, што вокны часткова губляюць шкло, потым мы бачым іх без шыбаў, зніклі дзверы і, нарэшце, бачна, як нямецкія вайскоўцы расцягваюць рэшткі сцен і даху палаца.**

На адваротным баку апошняй фотакарткі добра чытаецца паштовы штэмпель – 17 сакавіка 1917 года. Ім пазначаны ліст нямецкага салдата, які ён выслаў да сваіх родных у Берлін. Сам фотаздымак мог быць зроблены раней.

У любым выпадку, падзеі Першай сусветнай вайны сцерлі з твару смаргонскай зямлі адзін з найвыдатнейшых мясцовых твораў архітэктуры і матэрыяльны напамін пра род Букатых. У полымі таго ваеннага ліхалецця загінула і мыская царква.

## Апошні гаспадар Мысы

Уладальнікам Мысы ў міжваенны час мінулага стагоддзя стаў **Яўстафій Карп**. Як сведчаць мясцовыя жыхары, паходзіў ён з латышоў. Ажаніўшыся з Аляксандрай з дому Букатых, атрымаў большую частку тутэйшых зямель.

**У народнай памяці захаваліся звесткі яшчэ пра аднаго "барына", які вярнуўся сюды пасля Мікалаеўскай вайны і жыў у цагляным доме каля маёнтка.**

Пасля вайны Яўстафій Карп аднавіў сядзібны дом, які быў больш сціплы, паставіў іншыя пабудовы, заклаў моцную гаспадарку.

Апрацоўвалі зямлю, даглядалі жывёлу сем'і парабкаў з так званых "чваракоў" (баракаў) каля сядзібы. Па звестках 1929 года, Яўстафій Карп валодаў 860 гектарамі зямлі, трымаў цагельню. Па перапісе 9 снежня 1931 года маёнтак Вялікая Мыса ўваходзіў у крэўскую вясковую гміну Ашмянскага павета і складаўся з пяці жылых пабудоў, у якіх жыло 75 чалавек.

Прадбачыўшы небяспеку для буйных землеўласнікаў новай вайны, Яўстафій загадзя распрадае зямлю мясцовым людзям, збывае гаспадарку каля Шыманова. Пасля верасня 1939 года разам з жонкай і сынам **Улюткам** з'язджае ў Польшчу.

## Двойчы зруйнаваная сядзіба

Новазбудаваны сядзібны дом быў паўторна зруйнаваны ў выніку пажару. Да сёння захаваліся толькі рэшткі яго падмурка. Іншыя гаспадарчыя і жылыя пабудовы часткова выкарыстоўвае мясцовы калгас і базавая школа да закрыцця ў маі 2006 года.

Толькі будынак школьнай майстэрні, які летам 2007 года перадалі прыходу суцькаўскай царквы, сёння прыносіць карысць і застаецца жывым сведкам мінуўшчыны.

У гэтай сувязі закрану лёс яшчэ адной пабудовы Мысы пасляваеннага перыяду. Будынак мясцовага клуба, які памерам нагадвае сядзібны дом. На самой справе яго пабудавалі з матэрыялаў Аслявяняцкага касцёла Святога Яна Хрысціцеля.

Пасля закрыцця ў сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя хрысціянскай святыні ў Аслявянятах мясцовае чынавенства вырашыла з яго зруба пабудаваць клуб у Вялікай Мысе, што хутка і зрабілі.

Тое, што некалі рабілі пад прымусам, бесчалавечна, без згоды і дазволу вернікаў, не знайшло працягу жыцця. Клуб 1 чэрвеня 2004 года закрылі, будынак разабралі і на гэтым паставілі апошнюю кропку ў лёсе былога аслявяняцкага касцёла.

Адразу прыгадалася падобная гісторыя закрыцця стараверскай царквы ў недалёкай Слабадзе. Калі з яе быў пабудаваны сельскі клуб у Монтацішках, падчас навальніцы ў будынак трапіла маланка. Вернікі ўспрынялі такі знак як "Божую кару за разбурэнне святыні". Сёння і ў той старонцы клуб перастаў існаваць.

**Як гэта неаднойчы было, што не знішчыла рука часу, войны і пажары, знішчыла галеча, апатыя і абыякавасць.**

Створанае чалавекам цягам некалькіх стагоддзяў заняпала, а засталося створанае богам – цудоўная маляўнічая мясцовасць з прыгожай прыродай ваколіц.

Перагарнулі 600-гадовую старонку гісторыі Мысы, наперадзе напісанне новага летапісу мясціны. Якім ён будзе – залежыць ад нас.

**Уладзімір ПРЫХАЧ, Смаргонь.**

**Больш фота глядзіце на сайце. Чытайце і іншыя артыкулы на гістарычную і краязнаўчую тэматыку на сайце**




КАЛЯНДАР

**17 кастрычніка.** 1696 год. Нарадзіўся Аўгуст III, кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь літоўскі (1733-1764 гг.).

***

**1994 год.** Памерла Зоя Коўш, нацыянальны дзеяч у Вільні, вязень ГУЛАГу.

***

**21 кастрычніка.** 100 гадоў з дня нараджэння Казіміра Свёнтака (1914 – 2011), дзеяча каталіцкага касцёла ў Беларусі, апостальскага візітатара Пінскай рымска-каталіцкай дыяцэзіі, кардынала.

***

**95 гадоў** назад (1919) у Мінску пачала выходзіць штодзённая газета нацыянальна-дэмакратычнага кірунку "Беларусь" (выдавалася да 9 ліпеня 1920 г.).

***

**18 кастрычніка.** 1991 год. Памёр Пятро Бітэль, пісьменнік, паэт, перакладчык, педагог, праваслаўны святар. Пахаваны ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.

***

**1529 год.** У Вільні меч і шапка вялікага князя літоўскага насупераk традыцыі ўручаны 9-гадоваму Жыгімонту Аўгусту.

***

**1906 год.** Нарадзіўся Алесь Салагуб (в. Зарудзічы, цяпер Смаргонскі р-н), паэт, публіцыст.

***

**1991 год.** Вярхоўны Савет прыняў Закон "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь".

***

**19 кастрычніка.** 1988 год. У Мінску ўтворанае рэспубліканскае грамадскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі" і аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне".

***

**20 кастрычніка.** 1506 год. На княжанне ў Вялікім Княстве Літоўскім абраны Жыгімонт І Стары.

***

**1655 год.** Падпісаная Кейданская дамова — Януш Радзівіл з вялікай групай шляхты заключылі ўнію Вялікага Княства Літоўскага са Швецыяй.

***

**1677 год.** Нарадзіўся Станіслаў Ляшчынскі (г. Львоў, цяпер Украіна), кароль Рэчы Паспалітай, вялікі князь літоўскі ў 1704-1709 гг. і 1733 г.

***

**21 кастрычніка.** 1935 год. Нарадзіўся Юрка Геніюш (г.п. Зэльва), пісьменнік і публіцыст.

***

**22 кастрычніка.** 1823 год. Нарадзіўся Адам Плуг (сапр. Антон Пяткевіч), беларускі і польскі пісьменнік, журналіст.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Барыс Харэвіч: **Гармонік так уразіў, што цяпер мяне не спыніць**

## “Мне не паверацць, што я такое чуў”, – гавораць слухачы пра аднаго з лепшых гарманістаў Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА. Маладзечанец Барыс Харэвіч – адзін з самых вядомых гарманістаў. Ён заваяваў Гран-пры на міжнародным фестывалі “Звіняць цымбалы і гармонік” у Паставах, займаў пачэсныя месцы на расійскіх конкурсах.**



Барыс Харэвіч, адзін з самых вядомых гарманістаў, – з унікальным гармонікам.

У інтэрв’ю музыка прыгадае, як ужо ў шэсць год давялося сыграць на вяселлі. Прызнаецца, што яго гармонік каштуе як аўтамабіль. Падзеліцца, ці ўдалося прымяняць музычныя здольнасці на залатых прыісках.

**– Як зацікавіліся ігрой на гармоніку?**

– Нарадзіўся ў Віцебску. Дзяцінства і юнацтва правёў у Рагачове. Там у шэсць год навучыў іграць на гармоніку дзядзька. Неўзабаве давялося на вяселлі сыграць. Дзядзька навучыў іграць вальс “Дунайскія хвалі”. Прыехалі мы ў вёску.

**А там вяселле, гарманіст “сышоў у аўт”. “Хто ўмее іграць?”, – пытаюць. “А во хлопчык іграе”. І мяне пасадзілі. Першае маё баявое хрышчэнне адбылося.**

Потым пачаў займацца ў гуртку Дома піянераў ў Рагачове. Калі там пасля гармоніка пачалі вучыць іграць на баяне, то сапраўдная ломка была: гэта зусім іншы інструмент.

**– Музычную адукацыю дзе працягнулі?**

– Збіраўся стаць ветэрынарным доктарам. Але неяк сустрэўся з аднакласніцай **Галяй Малашэнкай**, якая раней паступіла ў музычнае вучылішча ў Маладзечне. Так яна распісала, як з канцэртамі выступаюць, як возяць іх у філармонію і оперны тэатр.

І ўсё – доктарам не стаў, перадумаў. Калі закончыў восем класаў – паехаў паступаць у вучылішча. І паняцця не меў, якое аддзяленне выбраць, чым яны адрозніваюцца. Пайшоў на эксперыментальнае аддзяленне: у яго аб’ядналі народнае з харавым. Гэтыя чатыры курсы патрабавалі з нас, як з баяністаў і як харавікоў – ніякіх паблажак.

Потым паступіў у кансерваторыю ў Мінску.

**– Дзе працавалі?**

– Пасля арміі ў музычнае вучылішча ў Маладзечне прыйшоў выкладаць. Потым на Поўнач паехаў, больш за 20 гадоў быў дырэктарам музычнай школы ў Якуціі. Вярнуўся ў 1997 годзе. Далей выкладаў у музычнай школе ў Маладзечне, потым быў дырэктарам у Любані Вілейскага раёна. А яшчэ працаваў у Лебедзеве, Палачанах.

Выкладаў баян, акардэон. А ў якуцкім пасёлку – нават сальфеджыа, музычную літаратуру і фартэпіяна, бо не было выкладчыкаў па гэтых прадметах.

### Выступленне на канцэрце праняло наскрозь

**– Дык значыць з дзяцінства на гармоніку ўжо не ігралі?**

– Толькі эпізадычна, мімаходзь. А ў 2004 годзе трапіў у рукі зборнік “Творы буйной формы для гармоніка”. Здзівіўся, што на гармоніку такія рэчы можна іграць. Па-сапраўднаму ім ад 2007 года заняўся.

У Маладзечна прыехаў з канцэртам кампазітар **Яўген Дзярбенка** з Арла. Прывёз свайго геніяльнага вучня **Дзмітрыя Шылава**. І калі ён сыграў на канцэрце, мяне праняло наскрозь. Бо звычайна ўяўленне пра гармонік такое: на ім толькі вальсы, полькі, песні іграць.

**Пачаў асвойваць. Давялося цяжка, вельмі цяжка. Кожны дзень займаўся ад трох да пяці, часам шасці гадзін. Гэта норма ў мяне захавалася. Працягваю ў такім тэмпе.**

**– Ведаю, удзельнічаеце ў міжнародных фестывалях...**

– За гэтыя гады прайшоў звыш шасці міжнародных фестываляў і конкурсаў: Ржэў, Самара, Архангельск, Масква...

**– І дзе найбольшага поспеху дасягнулі?**

– Вельмі прыемна, што летась у Паставах на 16-м міжнародным фестывалі народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік” стаў уладальнікам Гран-пры. Туды прыязджаюць музыкі з Прыбалтыкі, Расіі, Украіны і нават з Кітая і Венесуэлы.

У журы сядзяць асы з асаў, узначальвае яго народны артыст Беларусі **Міхаіл Казінец**. Калі ўручалі Гран-пры, ён запрасіў сыграць у філармоніі з Нацыянальным акадэмічным народным аркестрам Беларусі імя Жыновіча.

Яшчэ займаў першае месца на міжнародным конкурсе “Іграй, баян” у Ржэве. Стаў лаўрэатам фестывалю “Гармонік – душа Расіі” ў Маскве. Ён самы прэстыжны ў Расіі.

**– Вас ужо ў журы запрашаюць...**

– Дзярбенка ўключыў у склад журы міжнароднага конкурсу, прысвечанага яго юбілею, “Квітней, арлоўская зямля”. Там пяць чалавек сядзела, усе прафесары, апроч мяне.

**– Барыс Пятровіч, што цікавей самому – выступаць ці быць у журы?**

– Мне лепш выступаць самому, чым іншых ацэньваць. Вельмі адказна: можа, раптам канкурсант палічыць, што ты яму занізіў ацэнку, будзе казаць “засудзілі”. Самому выступаць – ты за сябе адказваеш. А тут ты адказваеш не толькі за сваю ацэнку, але і ў нейкай ступені за лёс чалавека, бо там выступалі маладыя людзі. І важна іх заахвоціць.

### “Музыка дысцыплінуе чалавека”

– У нас у Беларусі гармонік зведзены на ўзровень прызбы. Раней быў настолькі папулярным інструментам за кошт цаны, даступнасці: яго лёгка было асвоіць. Потым гармонік выцеснілі гітары, калектывы эстрадныя.

Узровень выканальніцкі ў Расіі вышэйшы, чым у нас. Нашы самыя моцныя гарманісты блізка не будуць да расійскіх.

Дзякуючы намаганням Яўгена Дзярбенкі ў некаторых гарадах Расіі пачалі адкрываць класы гармоніка. На адной з сустрэч ён параіў: “Чаму б вам не адкрыць школу гарманістаў”. Паспрабаваў у школе мастацтваў у Маладзечне – не атрымалася.

Набраў у вілейскай гімназіі №2 клас гарманістаў. Пачынала больш дзяцей, зараз дзевяць вучняў займаюцца. Па розных прычынах адсейваюцца, хтосьці спартыўны накірунак выбірае. Цяпер дзеці загружаныя.

Задаволены тым, што вясной двое вучняў няйрэння выступілі на міжнародным фестывалі ў Мінску “Гармонік збірае сяброў”.

Цяпер рыхтую дваіх на конкурс “Звіняць цымбалы і гармонік”. Там якраз ёсць намінацыя “Настаўнік і вучань”.

Увогуле, калектыў у гімназіі вельмі дружны. Таму суцэльныя зоркі сабраліся: напрыклад, **Міхаіл Ермаковіч**, **Сяргей**

**Скаражонак**, **Ірына Новік**. А сабраў іх усіх таленавіты кіраўнік – намеснік дырэктара **Мікалай Іваненка.**

**– Ваш рэцэпт: як дзяцей зацікавіць?**

– Трэба падбіраць добрую праграму. Абавязковую яркую частку: беларускія мелодыі, каб яны не адрываліся ад каранёў. А яшчэ зацікавіць можна сваім прыкладам. Яны разам са мной іграюць і цягнуцца за мной.

**– На ваш погляд, што музычная адукацыя дае дзецям?**

– Найперш, музыка дысцыплінуе чалавека. Фактычна як тая трэніроўка ў спартсмена, толькі тут развіваюцца яшчэ рукі і розум.

Мала таго, за маё жыццё сотні вучняў прайшлі – цьфу-цьфу, ніводнага не было, каб быў звязаны з дрэннымі ўчынкамі. Музыка надае высакароднасць. Хай яна дзяцей хоць трошкі зачэпіць, потым яны сваім нашчадкам веды будуць перадаваць.

Думаю, заняткі музыкай дапамагаюць пашыраць кругагляд, дзеці становяцца больш разумнымі.

Мае вучні перадаюць прывітанні з дапамогай інтэрнэту з Малі, Індыі, Канады, Амерыкі.

Адзін вучань некалі ўсё уздыхаў: "Ой, мне цяжка, хачу адпачыць". А я яму: "Адпачнеш на тым свеце, зараз працаваць трэба". Дык цяпер ён з Канады піша: "Барыс Пятровіч, вы мне як зрабілі настаўленне ў жыцці, то я зараз шмат працую і багата чаго дабіўся".

## "Гармонік каштуе як аўтамабіль"

**– Што ж галоўнае для гарманіста?**

– Галоўнае – быць апантаным, захопленым, любіць гэту справу. Вельмі часта выступаю з канцэртамі і бачу, як усміхаюцца гледачы. Многія ўстаюць і глядзяць, на чым ён грае. Думаюць, што гэта баян.

У мяне ўнікальны інструмент, у Беларусі больш ні ў каго няма. У Расіі такія гармонікі – у самых моцных гарманістаў.

**Ён каштуе як аўтамабіль – вядома, не новы. Два гады за яго выплачваў. Тым не менш, ён у мяне ёсць.**

Гармонік спецыяльна распрацаваны ў Туле. Іграць можна практычна ўсё: класіку, джазавыя і эстрадныя кампазіцыі.

Мне адзін чалавек казаў: "Я лепш купіў бы машыну". Ну, можаш увесь двор заставіць металаломам. І што з гэтага? А я як выйду на сцэну, тысяча чалавек у зале, людзі стаяць, сядзяць у праходах. І яны крычаць "Брава!".

**– Як вы даказваеце, што гармонік прызначаны не толькі на прызбе іграць?**

– Дастаткова паслухаць канцэрт, і тады любы зразумее. Многія прыходзяць і кажуць, маўляў, што можна сыграць на двухрадцы? Ва ўсіх спрацоўвае стэрэатып.

Хачу змяніць стаўленне людзей да гармоніка. На канцэртах паказваю, што можна іграць не толькі вальсы, полькі... Я гэты этап прайшоў. Ён у мяне застаецца ў памяці. Але мяне больш прыцягваюць магчымасці інструмента. У яго, вядома, ёсць межы. "Палёт чмяля" на ім не сыграеш. Але збольшага можна сыграць многае. На гармоніку выконваюць творы Баха, Моцарта.

**– Вашы любімыя творы для гармоніка?**

– У мяне праграма на тры-чатыры аддзяленні. Цяжка і выбраць... У апошні час падабаецца "Сыграй, тальяначка": дзевяць мелодый на ваенныя тэмы.

Падабаецца "Малдаўская фантазія". Любімых твораў шмат.

**– Дзе выступаеце?**

– Мяне запрашаюць музычныя школы, кансерваторыя. Хацелася б і ў Палацы культуры Маладзечна даць канцэрт, але пакуль не ўдаецца.

У Маладзечне пазнаёміўся з першакласным калектывам – цымбальным аркестрам музычнага каледжа і з яго таленавітым кіраўніком **Сяргеем Гарбузам**. Рыхтуем з гэтым аркестрам чатыры нумары на конкурс у Францыі.

**– Якія былі самыя цікавыя ўражанні слухачоў?**

– Аднойчы прыходзіць чалавек: "А ці ёсць у вас дыск з запісамі?" Няма. А ён: "А як жа дакажу, што чуў такое. Мне ж не павераць".

А неяк выступаў у Германіі. Немцы мяне абазвалі "чалавек-камп'ютар". Пытаюся, чаму. Кажуць: "А ў нас усе, хто прыязджае, па нотах іграюць, а вы дзве гадзіны без перапынку і без нот". Так вучылі, не магу загарадзіцца ад гледача.

**– Што для вас гармонік?**

– Для мяне цяпер – гэта сэнс майго жыцця. Мне пашчасціла: выпаў шанец, які не ўпусціў. Пазнаёміўся з кампазітарам Яўгенам Дзярбенкам, пачаў з ім перапісвацца, тэлефанаваць. Падарыў столькі нот, а ён толькі для гармоніка напісаў звыш 500 твораў. І большая частка ў мяне ёсць.

**– Некалі знакамітая тэлеперадача "Іграй, гармонік" зараз ці выходзіць?**

– Так, ідзе кожную суботу. Трэба спадарожнікавая антэна, каб яе глядзець. Калі быў жывы сам **Завалокін**, гэта была класная перадача.


Фота забяспечана Барысам ХАРЭВІЧАМ

2013 год. Паставы. З народным артыстам Беларусі, ураджэнцам Вілейшчыны, прафесарам Міхаілам Казінцом.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Барыс Харэвіч разам з вілейскім вучнем Дзмітрыем Манчаком.

## На прыісках навучыўся разбірацца ў людзях

– У 2005-м цэлы год на прыісках на Поўначы працаваў, золата здабываў. Проста трэба было для сям'і зарабіць грошы.

Сказалі, музыканты нам непатрэбныя, ты працаваць прыехаў. Працавалі без выхадных і святаў па 12 гадзін у дзень. Вецер ці дождж, мароз ці спякота – усё роўна.

Тайга вакол, мядзведзі. Прыходзіш да ручая набраць вады, там сляды мядзведзя.

Прыіск – своеасаблівая школа жыцця. Там такая публіка, людзі розныя, некаторыя па некальку заходаў у турме адбылі. І за кожнае слова ты павінен адказваць.

**– І як музыканту там ужыцца?**

– Там свая прыказка ёсць: "Будзь чалавекам, і людзі да цябе пацягнуцца". Трэба проста гаварыць і думаць адно і тое. А то ў нас цяпер многія гавораць адно, робяць другое, а ў галаве – зусім трэцяе.

Калі вярнуўся, адчуванні былі такія. Уявіце топку паравоза. Туды кідаюць цурбан з галінкамі. І потым вымаюць. Абгарыць шалупіна, уся драбяза. А стрыжань застаецца. Так і з мяне зляцела шалупіна, і на свет зусім іншымі вачыма стаў глядзець.

Амаль беспамылкова навучыўся разбірацца ў людзях. Раней усё ж многае ідэалізаваў.

**– Там усё ж сыграць на гармоніку ці баяне давялося?**

– Прынеслі неяк гармонік ламаны-пераламаны, паловы клавіш няма. Ледзьве на ім сыграеш, але ж мелодыю ўгадалі – і тое добра.

Па вяртанні думаў, што з музыкай закончыў. Баян прадаў, ноты раздаў. Лёс так павярнуўся, што зацікавіўся гармонікам.

## "Гармонік – на ўсё далейшае жыццё"

**– Баяну вы нашмат больш год прысвяцілі. Але які з двух інструментаў больш любімы?**

– Цяпер гармонік. Ён – на ўсё далейшае жыццё.

Прайшоў пры асваенні гармоніка тры этапы. Спачатку іграеш па нотах, а спрацоўвае стэрэатып баяніста. Бачу ноты, а штосьці не тое гучыць. Пальцы бягуць, а розум яшчэ не спрацоўвае.

А потым быў такі момант. Ведаеце, як бывае ў дзяцінстве: плаваеш, рака шырокая, туман. Ты адплыў – і не бачыш берага. Пачынаецца паніка лёгкая, хутчэй назад вярнуцца хочацца. Так і тут.

Забываеш прывычкі баяна, а новыя яшчэ не напрацаваліся. А ты пачынаеш панікаваць: а мо, забудзеш баян, а на гармоніку іграць не навучышся? Набраўся цярпення, пайшоў наперад. І калі вобразна казаць, выйшаў не тое, што на бераг, а на агромністую гару. Пада мной аблокі і бачу, што ўнізе цэлы акіян.

Вось так гармонік мяне ўразіў. На ім можна сыграць практычна ўсё. І пасля гэтага мяне было не спыніць.

**– Дзеці, унукі ці маюць схільнасці да музыкі?**

– Старэйшая дачка ў музычнай школе на флейце вучылася іграць, малодшая – на акардэоне. Унук Герман у Мінску ў першы клас пайшоў. Вось яму, бачна, перадалося захапленне. Самастойна баян асвойвае – такі малайчына!

**Відэа выступлення Барыса Харэвіча глядзіце на сайце rh.by.**



**Алесь ВЫСОЦКІ.**
E-mail: alvy@tut.by

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

# Адсвяткавалі гол закалыхваннем

## Так гульцы Смаргоні павіншавалі паўабаронцу з нараджэннем сына

**СМАРГОНЬ. У суботу, 11 кастрычніка, смаргонцы правялі выязны матч супраць ФК "Рэчыца-2014". Абедзве каманды вядуць барацьбу за трэці радок у табліцы.**

Улічваючы той факт, што "чырвона-чорныя" ў апошні раз перамагалі гульцоў з Рэчыцы ў далёкім 2006 годзе, гульня абяцала быць няпростай. Так яно і здарылася.

У першым тайме гаспадары дзейнічалі трохі скавана, чым нашы футбалісты маглі скарыстацца. **Павел Баскакаў** з межаў штрафной небяспечна прабіў у блізкі кут, але галкіпер гаспадароў здолеў адбіць удар. Тры вельмі нядрэнныя магчымасці меў **Юры Мархель**, але ў завяршальнай стадыі яму трохі не хапіла дакладнасці. Дзеля справядлівасці адзначым, што і футбалісты "Рэчыцы-2014" мелі магчымасць адкрыць лік. Але ў адным моманце смаргонцаў выручыў варатар **Радзівон Сямук**. У другім моманце падвяла дакладнасць іх форварда.

У другой палове матча сітуацыя кардынальна змянілася. Гаспадары пастаянна нагняталі становішча каля варот **Радзівона Семука**. Былі і выхады "адзін у адзін", і небяспечныя ўдары ў створ варот.

Аднак самай драматычнай аказалася канцоўка сустрэчы. На 88-й хвіліне за ўдар саперніка ў твар выдалілі абаронцу "Рэчыцы-2014" **Дзмітрыя Гінтава**. Гульня гаспадароў выдалася грубаватай. Акрамя выдалення яны зарабілі шэсць папярэджанняў. Гасцям ж галоўны арбітр матча прад'явіў у два разы менш жоўтых картак.

На другой дададзенай хвіліне наступіла расплата. Пасля перадачы **Сяргея Шуманова Сяргей Равіна** гарматным ударам з межаў штрафной забіў мяч у сетку варот гаспадароў.

**Гульцы смаргонскага клуба незвычайным чынам адсвяткавалі гол. Яны выстраіліся ў лінію і паказалі закалыхванне немаўля на руках. Тым самым павіншавалі паўабаронцу Сяргея Шуманава з нараджэннем сына.**

Гэтая перамога дазволіла "Смаргоні" замацавацца на чацвертым месцы.

У суботу, 18 кастрычніка, наша каманда прыме на сваім стадыёне ФК "Гарадзея". Клуб з'яўляецца яшчэ адным канкурэнтам у барацьбе за трэцяе-чацвертае месцы. Пачатак сустрэчы ў 15:00.

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ, Смаргонь.**



Фота Уладзіміра АМБРАСЕВІЧА.

Гарматны удар Сяргея Равіны прынёс смаргонцам перамогу ў матчы.

● ФЕХТАВАННЕ

# "Во малы шпіліць!" – удзельнікі спаборніцтваў пра маладзечанскага фехтавальшчыка

**МАЛАДЗЕЧНА. Рэспубліканская спартакіяда па фехтаванні сярод дзіцячых спартыўных школ для дзяцей 1999 года нараджэння і маладзейшых праходзіла ў Мінску ад 7 да 10 кастрычніка.**

І амаль усё золата спаборніцтваў апынулася ў Маладзечне.

У асабовым першынстве сярод шаблістаў першае месца заняў маладзечанец **Максім Пінчук**, другое – таксама маладзечанец **Вячаслаў Лук'янцоў** і бронза спаборніцтваў сярод хлопчыкаў зноў жа апынулася ў маладзечанскай каманды. Трэцяе месца падзялілі **Мікіта Рашэтнікаў**. Трэнеры **Алена Рыжанкова, Андрэй Губанаў, Анатоль Гушчын.**

У асабовым першынстве сярод дзяўчынак лепшымі ў краіне таксама аказаліся дзяўчаты з Маладзечна – **Наталля Космач** (трэнер **Уладзімір Мядзведзеў**, Алена Рыжанкова, Андрэй Губанаў).

Каманда фехтавальшчыкаў з Маладзечна ў складзе **Максіма Пінчука, Вячаслава Лук'янцова, Сяргея Лук'янца** і **Антона Тарасевіча** стала першай у агульнакамандным заліку. Самым малодшым удзельнікам каманды быў Антон Тарасевіч.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Антон Тарасевіч у фехтаванне прыйшоў год таму, а ўжо стаў чэмпіёнам.

### Антон Тарасевіч: у фехтаванне прыйшоў папіць чаю

Антону 14 гадоў. На спартакіядзе ў Мінску ён здаў нарматыў на кандыдата ў майстры спорту.

Фехтаваннем Антон займаецца крыху менш за два гады. Гэтыя спаборніцтвы былі для яго першы. Трэнер Антона, Алена Рыжанкова, баялася, што ў камандным заліку Антону будзе цяжка адпавядаць больш моцным членам каманды. Але Антон вельмі стараўся не падвесці ні трэнера, ні каманду.

Пасля першых баёў хлопцы з каманды сказалі пра Антона: "Во малы шпіліць!"

Алена Рыжанкова цяпер марыць аб тым, каб аднойчы ўбачыць Антона ў ліку алімпійскіх чэмпіёнаў. А Антон на пытанне, чаму ён выбраў фехтаванне, адказаў, што ў гэты спорт яго прывёў сябар, спакусіўшы тым, што пасля трэніровак спартсмены разам з трэнерам п'юць чай.

**Наталля ТУР.**

● НАВІНЫ

### "Маладзечна-ДЮСШ-4" згуляла ўнічыю

**МАЛАДЗЕЧНА.** У чэмпіянаце вобласці па футболе "Маладзечна-ДЮСШ-4" 11 кастрычніка гуляла дома. Матч супраць "Нёман-Агра" завяршыўся ўнічыю 1:1.

Хоць "Маладзечна-ДЮСШ-4" займае першае месца, пераследнікі наблізіліся ўшчыльную. ФК "Любань" адстае на адно ачко. "Старыя Дарогі" – на два.

### "Забудове-2007" залічылі тэхнічнае паражэнне

**МАЛАДЗЕЧНА.** "Забудова-2007" і ФК "Капыль" аспрэчваюць 13-14 месцы ў чэмпіянаце вобласці.

Першы матч не адбыўся з-за няяўкі "Забудовы-2007", паведамілі ў абласной федэрацыі футбола. Камандзе залічылі тэхнічнае паражэнне 0:3.

Матч у адказ павінны адбыцца 18 кастрычніка.

### Мядзельскія міліцыянеры – другія ў вобласці па валейболе

**МЯДЗЕЛ.** Фінальная частка чэмпіянату УУС Мінаблвыканкама па валейболе адбылася 9 кастрычніка. Спаборніцтвы праходзілі ў Мар'інай Горцы.

У ліку шасці мацнейшых камандаў змагаліся прадстаўнікі Мядзельскага РАУС. Да гэтага на занальным турніры яны абышлі каманды з Маладзечна, Вілейкі, Валожына.

У фінальным турніры ў сваёй групе супрацоўнікі Мядзельскага райаддзела занялі першае месца. У паўфінале абыгралі жодзінцаў 2:0.

У фінальным матчы мядзяльчанам супрацьстаялі слуцкія міліцыянеры, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага РАУС **Святаслаў Пратас**. Ва ўпартай барацьбе мядзяльчане саступілі 1:2 і занялі другое месца.

### Акрабаты сабраліся ў Вілейцы

**ВІЛЕЙКА.** 10-11 кастрычніка ў Вілейцы прайшло адкрытае першынство Мінскай вобласці па акрабатыцы. Апроч гаспадароў, у ім удзельнічалі спартсмены з Наваполацка, Мінска, Мазыра, Баранавічаў, паведаміў намеснік дырэктара Вілейскай СДЮШАР **Аляксей Тарбееў.**

Віляйчане заваявалі медалі ва ўсіх відах, у якіх выступаліся. Асабліва ўдалым было выступленне ў мужчынскай чацвёрцы, жаночай тройцы і змешанай пары, дзе віляйчане перамаглі.

### Змагаліся будучыя абаронцы Айчыны

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 11 кастрычніка, у райцэнтры адбыліся спаборніцтвы па комплексе "Абаронца Айчыны" сярод дапрызыўнай і прызыўной моладзі.

Навучэнцы школ раёна змагаліся ў бегу на 100 і 3000 метраў, стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, падцягванні на перакладзіне, кіданні гранаты.

У групе "А" перамагла каманда Крывіцкага сада-школы. У групе "Б" лепшымі сталі прадстаўнікі Нарацкай СШ №1, расказаў намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама **Леанід Шыдлоўскі.**

У асабовым заліку ва ўзроставай групе 15-16 год лепшы вынік паказаў **Аляксандр Ермаковіч.** Паміж 17-18-гадовых юнакоў перамог **Юры Зюлько**. Абодва – навучэнцы Крывіцкага сада-школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як не стаць плаксівым ныцікам

**Восеньскія дні могуць як радаваць яркімі фарбамі лісця, так і засмучаць тым, што становіцца менш святла і цяпла. Гэта адбіваецца і на псіхічным, і на фізічным стане.**

Многія заўважаюць, што восенню адчуваюць сябе стомленымі, без настрою і жадання штосьці рабіць. Звычайна такі стан называюць восеньскай дэпрэсіяй ці меланхоліяй.

Падчас сезоннай хандры чалавек падаўлены, зацыкліваецца на сумных думках, стомлены, кепска працуе і дрэнна спіць. Можна неўпрыкметператварыцца ў плаксівага хмурнага ныціка.

Звычайна такі стан узнікае праз недахоп сонца. Менавіта дзякуючы яго промням арганізм выпрацоўвае серататнін – гармон спакою і добрага настрою. А ў цемнаце выпрацоўваецца мелатанін, які тармозіць нервовую сістэму і цягне на сон.

Як змагацца з хандрой:

**1. Ешце смачна і разнастайна.**

У першую чаргу сачыце за харчаваннем. Ешце шмат гародніны, а таксама прадукты, багатыя на серататнін: бананы, гарбузы, апельсіны, фінікі, грэйпфруты.

Каб сінтэзаваць серататнін, арганізму неабходна рэчыва, якога шмат ў мясе індычкі, малацэ і малочных прадуктах, яйках.

Часам можаце паласавацца шакаладам, але ў меру.

**2. Больш святла.**

Паводле статыстыкі, восенню і зімой узнікае дэпрэсія ў кожнага другога. Яе выклікае недахоп фарбаў і сонца.

Каб у вас былі іншыя адчуванні ад халоднага перыяду года, больш бывайце на прыродзе, узмацніце асвятленне дома і на працы.

**3. Пазбягайце лекаў.**

Будзьце асцярожныя з антыдэпрэсантамі, не "выпісвайце" іх самі сабе. Паводле навуковых даследаванняў, яны не даюць карысці пры змаганні з сезоннай дэпрэсіяй, бо лечаць толькі сімптомы, а не прычыну.

Лепш піце вечарам чай з мятай ці прыміце ванну з алеем лаванды.

**4. Пазбаўляйцеся ад лішняга.**

Не насіце з сабой цяжкую сумку. Вы фізічна адчуваеце "цяжкую ношу", а гэта выклікае цяжкасць на душы.

Таму выкладаем усё лішняе і пераходзім на сумку меншую і лягчэйшую.

**5. Займайцеся спортам.**

Найлепш у гэты перыяд плаваць. Вада змывае ўсю адмоўную энергію, якая накопліваецца за дзень.

**6. Навядзіце парадак.**

Парадак на рабочым стале, у сумцы, у кватэры – усё гэта добра разгружае і дае адчуванне ўтульнасці.

**7. Падтрымлівайце сувязь з блізкімі.**

Напішыце ці патэлефануйце сябрам, сваякам. Шалёны рытм жыцця прымушае забываць пра блізкіх.

Выберыце час для сустрэчы з сям'ёй, з сябрамі. Гэта зарадзіць вас эмоцыямі і дасць падтрымку.

**8. Няхай вакол вас будуць яркія рэчы.**

Каляровы кубак, апельсіны ў вазе, незвычайны блакнот – усё гэта робіць звычайны дзень насычаным фарбамі. А як прыемна набываць усё гэта!

Памятайце, што ў стан дэпрэсіі чалавек уганяе сябе сам, а спісвае ўсё на абставіны. Бываюць перыяды, калі няма чаму радавацца, але і яны мінаюць. Часам карысна пасумаваць, але толькі для таго, каб штосьці прааналізаваць, закрыць тое, што застаецца ў мінулым, і пачаць з поўнымі сіламі новае жыццё.

Пачніце яго з новых, нечуваных уражанняў у гэту восень!



Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг Маладзечанскіх электрасетак.

● РЭПЕРТУАРЫ



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Крымінальны трылер "**Вялікі ўраўняльнік**" (ЗША, 2014, з 16 гадоў)
17 кастрычніка – у 22:00 (цана: 50 000 рублёў)
20 кастрычніка – у 21:00
22 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастычны трылер "**Бягучы ў лабірынце**" (ЗША, 2014, ад 16 гадоў)
19 кастрычніка – у 15:00
23 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Жахі "**Праклянце Анабэль**" (ЗША, 2014, з 18 гадоў)
17 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Выпускны**" (Расія, 2014, з 18 гадоў)
18 кастрычніка – у 20:00
19 кастрычніка – у 21:30
20 кастрычніка – у 19:00
21 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Зіп і Зап. Клуб шкляных шарыкаў**" (Іспанія, 2014, да 12 гадоў у суправаджэнні дарослых)
18 кастрычніка – у 14:00
19 кастрычніка – у 13:00
Цана білета: 25 000 рублёў

"**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, 2014, да 14 гадоў у суправаджэнні дарослых)
18 кастрычніка – у 16:00
19 кастрычніка – у 17:30
22 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! "**Дракула**" (ЗША, 2014, да 14 гадоў у суправаджэнні дарослых)
17, 23 кастрычніка – у 20:00 (цана білета: 45 000)
18 кастрычніка – у 18:00
18 кастрычніка – у 22:00 (кошт: 50 000 рублёў)
19 кастрычніка – у 19:30
21 кастрычніка – у 19:00
22 кастрычніка – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! "**Горка 2**" (Расія, 2014, з 16 гадоў)
23 кастрычніка – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Неверагоднае перамяшчэнне**" (Беларусьфільм, 2014)
18 кастрычніка – у 17:30
19 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, 2013, без узроставых абмежаванняў)
17 кастрычніка – у 17:30
18 кастрычніка – у 15:30
19 кастрычніка – у 14:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Паветраны маршал**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2014, да 14 гадоў у суправаджэнні дарослых)
17 кастрычніка – у 19:30
18, 20 кастрычніка – у 21:30
19 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Бландзінка ў эфіры**" (ЗША, 2014, з 16 гадоў)
17 кастрычніка – у 21:30
18 кастрычніка – у 19:30
19 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Кухня ў Парыжы**" (Расія, 2014, да 12 гадоў у суправаджэнні дарослых)
21, 23 кастрычніка – у 21:30
22 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Нешта**" (ЗША, Канада 2011, з 16 гадоў)
21, 23 кастрычніка – у 19:30
22 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

Камедыя "**Кухня ў Парыжы**" (Расія, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 кастрычніка – у 18:00
19 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 кастрычніка – у 21:00
18 кастрычніка – у 18:00
19 кастрычніка – у 21:00
22 кастрычніка – у 18:00
23 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Бабнік**" (ЗША, з 18 гадоў)
18 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 40 000 рублёў

Прыгоды "**Неверагоднае перасоўванне**" (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
18, 19 кастрычніка – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Трылер "**Нешта**" (ЗША, Канада, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
22 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама "**Абяцанне**" (Францыя, з 16 гадоў)
23 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**На другі дзень Сёмухі**" (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), Юры Вута
21 кастрычніка – у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**", С.Злотнікаў, В.Распуцін, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі
22 кастрычніка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (рэтра ў 2-х частках), Ірына Пісьменная
24 кастрычніка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" пакажа ў кастрычніку

"**Васіліса прыгажуня**" (чарадзейная казка), К.Чарняк
19 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | | | | 5 | 7 | | |
| | 1 | | | | 9 | | 3 | 8 |
| | | | 1 | | | | 6 | |
| 3 | 2 | | | 9 | | | | 7 |
| | | | 3 | | 4 | | | |
| 6 | | | | 7 | | | 4 | 9 |
| | 6 | | | | 3 | | | |
| 2 | 5 | | 4 | | | | 9 | |
| | | 9 | 5 | | | | | 1 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● ГАРАСКОП
17-23 КАСТРЫЧНІКА

**Авен.** Калі вы ведаеце, што такое шчасце, то пастарайцеся захаваць тое адчуванне як мага даўжэй. І часцей вяртайцеся да гэтага стану.

**Цялец.** Стрыманасць і спакой – неабходныя ўмовы для захавання высокага жыццёвага патэнцыялу і добрага адчування на працягу ўсіх дзён.

**Блізняты.** Нязначныя спрэчкі з блізкімі людзьмі вы з лёгкасцю пераадолееце, калі будзеце гатовыя саступіць хоць трохі.

**Рак.** Усе гэтыя дні вы будзеце атрымліваць асалоду з раніцы да вечара, смакуючы кожнае імгненне. Асабліва цудоўнымі будуць выхадныя, праведзеныя не ў адзіноце.

**Леў.** Шмат часу прыйдзецца ўдзяліць папяровай валакіце. Пастарайцеся быць як мага больш уважлівымі, каб не згубіць якога-небудзь важнага дакумента.

**Дзева.** Вы даб'яцеся лепшага выніку, калі меней будзеце гаварыць пра свае праблемы, а ўважлівей прыслухоўваць меркаванне навакольных.

**Шалі.** Каб падтрымліваць цяпло і ўтульнасць дамашняга ачага, а таксама камфортныя адносіны з блізкімі вам людзьмі, недастаткова проста карыстацца гэтымі адносінамі. Трэба прыкласці нямала намаганняў, у тым ліку і над сабой.

**Скарпіён.** Заканчэнне ўсе нетэрміновыя справы, займіцеся тым, што сапраўдны важна цяпер. І не сумнявайцеся ў сваім поспеху, вы можаце самі кіраваць ім.

**Стралец.** Не рабіце неабдуманых учынкаў, не трацьце дарэмна энергію і не заключайце сумнеўных здзелак. Калі вам удасца пазбегнуць неканструктыўных дзеянняў, вы адкрыеце дарогу да бяспечнай будучыні, дабрабыту.

**Казярог.** Каб атрымаць перамогу, вам неабходна ацаніць сябе і ўсе свае матывы справядліва. Бо самы галоўны вораг – вы самі. Вы стаіце ўсё пад сумненне, не верыце ў свае сілы і здольнасці. Паверце ў сябе, і шлях да поспеху будзе нашмат прасцейшы.

**Вадалей.** Ваш фінансавы стан наладзіцца, і вы атрымаеце новыя станоўчыя эмоцыі.

**Рыбы.** Вы атрымаеце ўсё неабходнае, каб ажыццявіць свае жаданні і даўно задуманыя планы. Выберыце асноўны напрамак для дзейнасці і праявіце максімум працавітасці і намаганняў для дасягнення мэты.

Марыя УРБАНОВІЧ.




Камент-эксперт Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


## НАДВОР'Е

### 18 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +6 / +6 | | +2 / +5 | | +1 / +5 | | +10 / +15 | |
| | 738 | ↓ 7 | 748 | ↓ 7 | 742 | ↑ 5 | 732 | → 5 |
| Вільня | +5 / +6 | | +2 / +4 | | +1 / +8 | | +12 / +15 | |
| | 747 | ↓ 4 | 757 | ↓ 2 | 747 | ↗ 7 | 739 | ↗ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 7.47
Захад 18.07
Даўжыня дня 10.20


Усход 02.42
Захад 16.03
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- Ліст на дрэвах жоўты, але доўга трымаецца – маразы прыйдуць не скора. Хуткі лістапад – суровая зіма.
- Гром у кастрычніку – зіма без снегу.

## Чытайце праз тыдзень:

- **Як мастака з Астравеччыны Алега Драбышэўскага ўразіў Будслаў? Якую карціну ён падарыў мядзельскаму музею?**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

### Як вы першы раз уладкоўваліся на працу?



**Таццяна Котава, пенсіянерка:**

– Я прыехала з вёскі. Працавала на фабрыцы музычных інструментаў. Адпрацавала там пяць гадоў. Асаблівых цяжкасцей не было, калектыў прыязна паставіўся да мяне.



**Вячаслаў Маслоўскі, станочнік:**

– Пасля шостага класа працаваў на мэблевай фабрыцы. Гэта была праца на лета. Уладкавала мяне туды мама.



**Сяргей Гулецкі, электрамантажнік:**

– Вучыўся я ў політэхнічным каледжы ў Маладзечне. Па размеркаванні мяне накіравалі ў Мінск. Было вельмі многа папяровай валакіты. Трэба было сабраць дакументы для інтэрнат, таксама, каб уладкавацца на працу.



**Ігар Кошкін, намеснік кіраўніка:**

– Нічога асаблівага не было ў маім працаўладкаванні. Проста прыйшоў і ўладкаваўся. Дрэнна тое, што першае месца працы вельмі слаба аплачваецца. Я зарабляў 100 долараў. Працаваў эканамістам. Адначасова вучыўся.



**Зоя Зюба, пенсіянерка:**

– У 18 гадоў пачала працаваць служачай на заводзе. Цяжкасцей асаблівых у мяне не было, калектыў быў добры.

**Падрыхтавалі Вольга ЮРКЕВІЧ, Галіна СІНІЦА.**




Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 42 (1016) 17.10.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 879. Падпісана ў друк у 10.00 16.10.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.